ISSN 2351-6658
ISSN (ONLINE) 2351-6666

# ПАДТРЫМКА ЛАКАЛЬНАЙ ІДЭНТЫЧНАСЦІ Ў ЦЭНТРАЛЬНАЙ ЕЎРОПЕ (ПАЛІТЫКА ПОЛЬШЧЫ НА ПАЛЕССІ Ў МІЖВАЕННЫ ПЕРЫЯД І ВЕНГРЫІ Ў ПАДКАРПАЦКАЙ РУСІ Ў 1939–1944 ГАДАХ)

АЛЕГ КАЗАК

***Анатацыя:*** У артыкуле разглядаюцца асноўныя элементы нацыянальнай палітыкі ў адносінах да ўсходнеславянскага насельніцтва Палесся ў міжваеннай Польшчы і Падкарпацкай Русі ў складзе Венгрыі ў 1939–1944 гадах. Адлюстраваны агульныя і адметныя рысы нацыянальнага будаўніцтва ў абодвух выпадках.

***Ключавыя словы:*** ідэнтычнасць, нацыяналізм, нацыянальная палітыка, этнакультурная інжынерыя.

# SUPPORT OF LOCAL IDENTITY IN CENTRAL EUROPE (THE POLICIES OF POLAND IN POLESIE IN THE INTERWAR PERIOD AND THE POLICIES OF HUNGARY IN CARPATHIAN RUTHENIA IN 1939–1944)

***Abstract:*** The article describes the main elements of the national policy towards the Eastern Slavic population of Polesie in interwar Poland and towards the population of Carpathian Ruthenia as part of Hungary in 1939–1944. The common and distinctive features of nation-building are identified in both cases.

***Keywords:*** Identity, Nationalism, National Policy, Ethnocultural Engineering.

У міжваеннай Польшчы мясцовыя ўлады пастаянна падкрэслівалі адметнасць жыхароў Палескага ваяводства. Яшчэ ў 1923 годзе ваявода Станіслаў Даўнаровіч у аналітычным артыкуле звяртаў увагу на неабходнасць максімальнага паслаблення ўплыву беларускага і ўкраінскага нацыянальных рухаў на мясцовае насельніцтва (Сьляшынскі, 2011: 372). Апагей дадзенага падыходу назіраўся падчас дзейнасці ваяводы Вацлава Костэк-Бернацкага (1932–1939 гады). Публіцыстыка і навуковая літаратура таго часу актыўна падтрымлівала тэзіс аб этнічнай самабытнасці мясцовага насельніцтва.

У Падкарпацкай Русі, якая ў міжваенны перыяд з'яўлялася складовай часткай Чэхаславакіі, пры адносна шырокай свабодзе інтэлектуальнага жыцця склаліся тры асноўныя мадэлі ідэнтычнасці мясцовага насельніцтва: русафільская, украінафільская і русінафільская. Ідэалагічнае жыццё ў перыяд чэхаславацкай улады вызначалася барацьбой першых двух напрамкаў, інтарэсы якіх прэзентавалі даволі ўплывовыя культурна-асветніцкія арганізацыі ("Таварыства імя Аляксандра Духнавіча" і "Прасвіта" адпаведна). У афіцыйнай рэгіянальнай прэсе 1939–1944 гадоў прадстаўнікі абодвух інтэлектуальных кірункаў цярпелі жорсткія нападкі за "адыход ад мацярынскіх традыцый", "насаджэнне чужых культурных уплываў". У рамках афіцыйнага курсу "уграрусінізму" мясцовае насельніцтва абвяшчалася асобным славянскім народам – русінамі, звязаным цеснымі гістарычнымі сувязямі з "Каронай святога Іштвана". Такім чынам, далучэнне рэгіёна да складу Венгрыі трактавалася як акт адраджэння яе былой магутнасці, як гістарычная справядлівасць, а мясцоваму русінскаму насельніцтву былі абяцаны самыя шырокія мажлівасці нацыянальна-культурнага развіцця.

Нягледзячы на падабенства ў асноўных кірунках палітыкі ўладаў абедзвюх краін, мелі месца і некаторыя адрозненні. Вельмі слабая мясцовая інтэлектуальная традыцыя дазваляла распрацоўшчыкам афіцыйнага ідэалагічнага курсу ў Палескім ваяводстве разлічваць на даволі хуткае прыняцце мясцовым насельніцтвам "высокай" польскай культуры (тэрмін Эрнэста Гелнэра) і нават не браць да ўвагі патэнцыйную небяспеку развіцця мадэрнага палескага нацыянальнага руху. Так, калі Костэк-Бернацкі ў адной са сваіх пастаноў раіў чыноўнікам не абражаць жыхароў за выкарыстанне мясцовых гаворак ("ламанай" мовы), але адказваць па-польску (Сьляшынскі, 2011: 377), ён разумеў элементы палескай сялянскай культуры як яўны анахранізм, прыкмету нізкага сацыяльнага статуса.

У Падкарпацкай Русі больш моцная мясцовая інтэлектуальная традыцыя, значная моўная адлегласць паміж славянскім насельніцтвам рэгіёна і венграмі прымусілі ўлады шукаць іншую формулу канструя-

вання культурна-ідэалагічнага ландшафту. Дзяржава пазіцыянавала сябе ў якасці абаронцы русінскіх культурных інтарэсаў: русінская мова была прызнана адной з афіцыйных у рэгіёне, былі зроблены спробы кадыфікацыі літаратурнай мовы на аснове мясцовых гаворак (граматыка Юліюса Марыны, Івана Гарайды), створана Падкарпацкае таварыства навук (арганізацыі акадэмічнага характару, якая займалася вывучэннем гісторыі, культуры і фальклору русінаў).

З іншага боку, асіміляцыйныя тэндэнцыі ў палітыцы венгерскіх уладаў таксама прысутнічалі, хоць і не так выразна. Напрыклад, рэгенцкі камісар Міклаш Козма, які пазіцыянаваў сябе як паслядоўны абаронца русінскіх інтарэсаў, у адной са сваіх прамоў цалкам справядліва заўважыў, што валоданне венгерскай мовай адкрывае для русінаў больш шырокія магчымасці кар’ернага поспеху (Ormos, 2000: 727). Пастаянна фіксаваліся выпадкі зняважлівых адносінаў да русінаў, што працавалі ў цэнтральных раёнах Венгрыі (чыноўнікі, сезонныя працоўныя), за іх дрэннае веданне дзяржаўнай мовы. Венгерская мова паступова стала дамінуючай у сістэме адукацыі нават малодшай ступені, асабліва пасля рэвізіі стану школ рэгіёна, што была здзейснена ў красавіку 1943 года.

І ў Палескім ваяводстве, і ў Падкарпацкай Русі ў афіцыйным дыскурсе пастаянна артыкулявалася цывілізатарская роля дзяржавы (адпаведна Польшчы і Венгрыі). Прывядзём некалькі тыповых прыкладаў. У прапагандысцкай брашуры Мар’яна Стэмпоўскага з красамоўнай назвай “У джунглях Палесся” адзначалася, што польскія школы ў рэгіёне з’яўляюцца *“асяродкамі асветы, культуры і клопату аб людзях”*, інструментам барацьбы з *“варварскімі забабонамі палескага люду”* (Stępowski, 1933). Міністр замежных спраў Венгрыі Іштван Чакі падчас аднаго з выступаў у рэгіёне адзначыў: *“Русінскі народ і яго кіраўнікі добра ведалі, што іх духоўнае, культурнае, эканамічнае і палітычнае развіццё магчыма толькі ў рамках тысячагадовых межаў. Мы гарантуем братам-русінам рэлігійную свабоду і прагрэс, эканамічны дабрабыт і палітычную волю”* (Чакій, 1940).

І на Палессі, і ў Падкарпацкай Русі актыўна ішоў працэс фармавання мясцовых культаў асобы. У першым выпадку варта звярнуць увагу на постаць ваяводы Костэк-Бернацкага. Яго характарыстыка як “гаспадара палескай зямлі” агучвалася не толькі на старонках мясцовай прэсы, але і на афіцыйных мерапрыемствах; у газетах змяшчаліся фотаздымкі ваяводы ў сялянскай вопратцы падчас гутаркі з мясцовымі жыхарамі (Cichoracki, 2009: 298). Канструяванне афіцыйнымі ідэолагамі падобнага вобраза “мясцовага правадыра” з мэтай адначасова падкрэсліць місіянерскую ролю дзяржавы і яе ўвагу да інтарэсаў насельніцтва

рэгіёна назіралася ў адносінах да рэгенцкага камісара ў Падкарпацкай Русі Міклаша Козмы. На старонках прэсы з'яўляліся матэрыялы, дзе Козма параўноўваўся з Міклашам Хорці; з другога боку, рэгенцкага камісара неаднаразова называлі *"найлепшым сябрам русінскага народа",* актыўна асвятляўся яго ўдзел у розных дабрачынных акцыях.

Пастаяннае падкрэсліванне цывілізацыйнай, культрагерскай місіі Польшчы ў палескім рэгіёне не заўсёды знаходзіла падтрымку прадстаўнікоў навуковай грамадскасці. Напрыклад, вядомы этнолаг Юзаф Абрэмбскі так ацэньваў урачыстыя мерапрыемствы падчас дзяржаўных святаў: *"Школьная працэсія, якая ходзіць з карагодамі па пустых вуліцах вёскі ў гадавіну 3 Мая, не можа завітаць у сялянскую хату. У гэтай хаце ёсць месца толькі для малых людзей, а не для прэзідэнта ці маршала"* (Obrębski, [1936] 2007: 421). У Падкарпацкай Русі заўвагі адносна непажаданасці празмернай акцэнтуацыі ўвагі на цывілізацыйнай ролі венгерскай культуры ў рэгіёне рабіў нават рэгенцкі камісар Міклаш Козма (Ormos, 2000: 777). На думку кіраўніка мясцовай адміністрацыі, такі падыход вяртаў краіну ў *"трыанонскія часы"* і не падыходзіў да канструявання вобраза Будапешта як апекуна сваіх нацыянальных меншасцяў. Між тым у афіцыйным дыскурсе апеляцыя да місіянерскай функцыі венгерскага элемента ў краі заўсёды займала значнае месца.

Венгерскія ўлады пастаянна падкрэслівалі той факт, што культурная і моўная самабытнасць насельніцтва Падкарпацкай Русі не можа выкарыстоўвацца ў палітычных мэтах (у выпадку ж з палешукамі такое пытанне фактычна не паўставала). Лаяльнасць мясцовых жыхароў да цэнтральнай улады была больш прыярытэтнай для афіцыйнай палітыкі ў абодвух выпадках.

### ***Бібліяграфія***

1. Сьляшынскі, Войцэх (2011). "Палесьсе ў палітыцы польскай дзяржавы ў 1918–1939 гг.", *Arche – Пачатак,* № 3: 370–382.

2. Чакій, Стефанъ (1940). «Къ угрорусскому народу», *Земледельческий календарь на годъ 1941:* 49–51.

3. Cichoracki, Piotr (2009). *Droga ku anatemie. Waciaw Kostek-Biernacki (1884–1957).* Warszawa: Instytut Pamiкsi Narodowej.

4. Obrębski, Jyzef [1936] (2007). *Polesie.* Warszawa: Oficyna Naukowa.

5. Ormos, Mária (2000). *Egy magyar mŭdiavezŭr: Kozma Miklys.* Budapest: PolgArt Könyvkiady.

6. Stępowski, Marjan (1933). *W dżungli poleskiej.* Lwyw: Wydawnictwo książek szkolnych.